# КАРЭСПАНДЭНЦЫІ.

## Як у нас шырыцца культурна-асьветная праца.

(В. Капішча, Вялейскага пав.).

Прыемна чытаць і бачыць, як наша моладзь, ломячы ўсе перашкоды, ідзе да асьветы. Хто ня быў ніколі на вясковых тэатрах, хто ня бачыў гульні нашых маладых артыстаў-аматараў, — той не разумее нашае моладзі, яе імкненьня парваць путы цемры і асьвяціць нашу старонку.

У адзін хмурны дзень восеньню, вяртаючыся з Вялейкі (пав.) дамоў, я заглянуў у в. Капішча, дзе Асіпоўскі гурток Т-ва Беларускае Школы ладзіў спэктакль-вечарыну. Гулялі: „Суд“, „Боты“ і „Пасланец“.

Народу было многа. Відаць было сярод глядзельнікаў і зусім старых дзядкоў, якія, усеўшыся на першых мясцох, адказвалі маладым: „Мы, як старыя, лепш тут пачуем тую мову, якую вякамі захоўвалі і якую цяпер вам, маладым, перадаём“.

Воплескам ня было канца. Усе запомнілі пра сваё цяжкае, гаротнае жыцьцё. Радасьць, задавальненьне сьвяціліся на тварах прысутных.

Пасьля спэктаклю пачаліся пад струнны аркэстр таго-ж Асіпоўскага гуртка скокі. Я заглянуў да ініцыятараў і віноўнікаў нашага сьвята. З вялікім смуткам яны мне апавядалі, сколькі працы, энэргіі прышлося ім страціць, пакуль наладзілі тэатр. „У сваей вёсцы, — перадае адзін з артыстаў—нам удалося паставіць усяго, толькі два разы спэктакль, трэці раз Староста забараніў, матывуючы гэту забарону тым, што будынак пад тэатрам крыты саломай. Але нічога, збудуем і зімовы тэатр, а цяпер ставім спэктаклі ў другіх вёсках.

Я пакінуў гэты мілы гурток і паплёўся дамоў. У маіх вушах і цяпер зьвініць бадзёры адказ: ...„нічога збудуем зімовы тэатр“. Чэсьць вам, дарагія браточкі. Ваша— „збудуем!“—дае нам старым надзею, што вы збудуеце сабе лепшую будучыню і не загінеце ў няволе і цемры. Чэсьць!

**Дзед Нефед.**

## Сьпіць наша вёска.

(в. Ярнава, Старавескае вол., Слонім. пав.).

Радасна неяк на душы, калі ўбачыш з газэты „Праца“ аб тым, што беларуская вёска прабуджаецца ад векавога сну, і як маладыя барацьбіты разганяюць цемру. У тойжа час агортывае жаль, калі паглядзіш на нашу вясковую моладзь, якая сьпіць непрабудным сном. Няма ў нас гуртка Т-ва Беларускае Школы, няма ні бібліатэкі-чытальні ні Народнага Дому. Замест таго, каб пачытаць газэту ці кніжку, мы толькі сабраўшыся лаемся брыдкімі славамі, а так-жа, замест таго, каб ставіць спэктаклі, зьбіраюцца на йгрышчы, дзе без гарэлкі, сваркі ды бойкі не абходзіцца. Вось, гэта першы занятак нашае моладзі, ад якой не адстаюць і пажылыя мушчыны. Але-ж, браткі, годзі спаць! Пара і нам прабудзіцца, працёрці вочы і паглядзець навакол сябе, як іншыя вёскі алганяюць ад сябе цемру і працуюць на культурна-асьветнай ніве, пракладаюць сябе шлях да лепшае будучыні. Каб і нам не астацца, і каб не пагасіць агонь, які разгараецца ў сэрцах маладых сяйбітаў культуры, а пайсьці па-прыкладу іх, дык трэба ўзяцца за працу, дарагія браткі!

**Вясковы.**

## Дык абаронцы?!

(Вёска Шчарбаві, Баранавіцкага павету).

У 1925 годзе ў нас былі выбары ў валасны самаўрад. З нашае вёскі прашоў у радныя Д. Мікша. Досьць было яму трохі пажыць сярод паноў, як наш абаронца пачаў нас прадаваць. Вось для прыкладу адзін факцік:

Праводзілася сёлета ў восень у нас гмінная дарога, на якой кожны гаспадар мусіў пасыпаць пяску на куску ў 6 мэтраў працягу. Але наш „абаронца“, панюхаўшыся з людзьмі панскага заводу, ад якіх дастаў і на гарэліцу, перамяніў гэты загад і замест 6 мэтраў, нам — яго выбаршчыкам—загадаў па 20 мэтраў. Вось, як ён бароніць нашы справы. Хоць наш радны Д. Мікша лічыць сябе і беларусам, але, здаецца, беларус гэтак ня робіць.

Ганьба табе! Па тваей працы будзе табе і пашана.

**Сын беларуса.**

## Культурная праца пад апекай паліцыі.

(в. Каранішчы, Вялейскага пав.).

На 23-кастрычніка г. г. быў у нашай вёсцы назначаны сход сяброў Каранішацкага гуртка Т-ва Беларускае Школы. Усе фармальнасьці, каб атрымаць дазвол, былі выканаы. Сябры ў вызначаны час пачалі зьбірацца. Зьявіўся і паліцыянт — гэты вечны наш „апякун“ з нейкім цывільным чалавекам.

Калі старшыня далікатна запытаўся ў незнаёмай яму асобы, ці мае ён хаця ад пастарунку дазвол быць прысутным на сходзе, дык сход пачуў адказ, што ён сам сабе дазваляе. Але гэтае пытаньне так не падабалася нашым „апякуном“, што досыць было ўбачыць трохі бульбы гаспадара пад лаўкай, як нас са сходу прагналі і „параілі“ хадзіць не на сходы, а ў касьцёл богу маліцца. Чым-жа ня добрыя апякуны, калі клапоцяцца і аб ратаваньню нашых душаў?

Вось, па якіх прычынам нам прышлося адлажыць сход і назначыць на 6 лістапада.

Цікава даведацца, ці бачаць вышэйшыя органы ўраду, пад якой апекай у нас адбываецца культурна-асьветная праца? Чаму-ж ня ведае!!—(*Рэд.*).

**Управа Каранішацкага Гуртка Т-ва Белар. Школы.**

## Тоже беларусы.

У Вялейку прыехалі: „дзядзька“, (як ён сам сябе называе) Вярнікоўскі і былы грамадавец з Лэбядзэўшчыны Сьвірыда. Зьвярнуліся сьпярша яны да Вялейскіх беларускіх дзеячоў, пачалі абяцаць кожнаму і пасаду, і грошы і вялікую будучыню. Угаварвалі больш такім аргумантам: „вам што ідэя, абы грошы давалі. Далучайцеся да нас, дык зараз і бібліатэчка будзе, і будынак і ўсё, усё, навет, птушынае малако“. Паслухаўшы гэтых прыгожых абяцанак, можна падумаць: „ці ня імпэратар які ўваскрос — вялікшы за Мусоліні“: „Калі стараста які будзе нам пярэчыць, дык мы і старасту ўбяром“. Ай, Моська, знаць... Валам валіце ў „нацыянальную раду і прасьвету“, калі хочаце „абрэсьці зямны рай“.

Лічаць сябе беларусамі, а прывітальныя тэлеграмы, на зьезьдзе 6.VI, да міністраў паслалі? А тым, якія гніюць у Вронках за беларускае адраджэньне — ніхто і не падумаў. За тое на банкеце гарэлкі — разьліўное мора. Сеўнасьць была на банкеце ў поўнай меры, бо паны былі ў адным пакою, у „кабінеце“ Паўлюкевіча, а для шэрага хам'я пакой асобны. Ну але кінем банкет, а пяройдзем да справы.

У той-жа дзень, па прыезьдзе „дзядзькі“ быў наняты пакой для сэкрэтарыяту. Прывязьлі з Лебедзева Нехвядовіча, бо ў Вялейцы не знайшлі, і пасадзілі яго кіраўнікам сэкрэтарыяту.

Вось і сядзіць, чакае гэты кіраўнік думаючы, што валам паваляць у сэкрэтарыят, але прасяўзеўшы некалькі дзён і не дачакаўшыся нікога, пачаў сам хадзіць. Хадзіў, шукаў і не знайшоў.

Адным словам, пажыўшы некалькі дзён, рада паказала сябе з самага дрэннага боку. Раскрылі ўсе свае карты, за якія грошы яны працуюць (казалі за выйгрыш у рулетку і лёто), але і гэта-ж „ганаровы“ заробак. Але рулеткай ці заробіш столькі, каб жыць так, як жывуць сябры „Нацыянальнай здрады“.

Грамадзяне, калі хто з вас страціў сумленнасьць і гонар — уступайце ў партыю авантурыстаў. Каму ня дарага беларускае адраджэньне — валам валіце ў сэкрэтарыят дэнацыяналістаў Паўлюкевіча і Вярнікоўскага.

Калі з вас хто хоча сытна жыць, банкетаваць — бяжэце хутка да „дзядзькі“ ў „прасьвету“.

Цяпер жарты далоў. Памятайце, што недалёка выбары ў Сойм і да вас завітаець яшчэ не адна птушка. Стараніцеся ад іх, як ад чумы! У вас ёсьць прыклад, як гэтыя салаўі перад выбарамі пялі вельмі прыгожа, а пасьля здрадзілі сваіх выбаршчыкаў. Ідзеце толькі за сваімі шчырымі прыяцелямі, якія бароняць вашы інтарэсы, не чакаючы манны нябеснай і якія не абяцанкамі кормяць вас, а вядуць да арганізаванага змаганьня за лепшую будучыню, бо толькі ў арганізацыі сіла.

**Беларус.**

# Пісьмы у Рэдакцыю.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар!*

Не адмоўце зьмясьціць у Вашай паважанай газэце пісьмо да Ураду Братняе Помачы Польскае Студэнцкае Моладзі У. С. Б. у Вільні наступнага зьместу.

Да Ураду Братняе Помачы Студэнцкае Моладзі У. С. Б. у Вільні.

Беларускі Студэнцкі Саюз, Вільня 15 XI 1927 году.

Дапаўняючы нашую вусную заяву, Урад Беларускага Студэнцкага Саюзу ў Вільні падае да ведама, што ўсе студэнты беларусы зьяўляюцца сябрамі Братняе Помачы Польскае Студэнцкае Моладзі і карыстаюцца з установаў і матар'яльнае дапамогі гэтае арганізацыі. У адносінах Братняе Помачы Польскае Студ. Моладзі да студэнтаў мы не дагледзелі ніякае розьніцы дзеля нацыянальных прычын.

З сяброўскім прывітаньнем:
Старшыня (—) **Ад. Зянюк**
Сэкрэтар (—) **Я. Жук.**

Пісьмо гэтае выклікана тым, што пры арганізацыі Таварыстваў прыяцеляў Студэнта ў Наваградчыне насельніцтва і самаўрады выявілі зацікаўленасьць, ці студэнты беларусы карыстаюць з дапамогі Братняе Помачы і ці зьяўляюцца яе сябрамі.

З пашанай за Урад Белар. Студ. Саюзу.
**Ад. Зянюк.**

**Ад Рэдакцыі:** Зьмяшчаючы гэтае пісьмо, ня можам ня выразіць свайго зьдзіўленьня, як гэта лёгка ідуць нашыя студэнты ўніверсытэту Стэфана Баторага на сустрэч Братняй Помачы, публікуючы пісьмо і даючы гэтым нібы мандат на права зьбіраньня ахвяр прыяцелямі помачы сярод беларускага насяленьня. Нашы студэнты мусіць зусім забыліся аб тым, што Братняя Помач, маючая свае аддзяленьні ўва ўсіх універсытэцкіх местах і на чале чуць не Прэзыдэнта Рэспублікі, арганізацыя ў сваім родзе пэўна-ж аўтарытэтная, ніколі не падняла свайго голасу проці тых несправядлівасьцяў, якія ўсьцяж чыніліся і чыняцца ўнівэрсытэцкімі ўладамі пры паступленьні ў універсытэты беларусаў, якія з прычыны гэтага мусяць бадзяцца па заграніцах. Студэнты ня ўспомнілі і аб тым, што парадак выбараў у праўленьні гэтай Братняй Помачы пабудаваны такім чынам, што беларускі студэнт туды ня можа папасьці ніякім чынам і што гэтыя Праўленьні (у Віленскім Унівэрсытэце асабліва) запоўнены рэакцыйнымі і шовіністычнымі корпорантамі, роднымі братамі тых „колегаў“, якія ў свой час складалі г. зв. Акадэмічныя камісіі, каторыя галоўна стаялі на перашкодзе паступленьня ў Унівэрсытэт беларускіх матурыстаў. Ня ўспомнілі студэнты і аб тым, што „колегі“ з Братняй Помачы і да гэтага часу ня хочуць прымаць у свае рады жыдоўскіх студэнтаў, паказваваючы гэтым і дасюль сваю чорную рэакцыйнасьць.

*Паважаны грамадзянін рэдактар!*

Пакорна просім зьмясьціць на старонках газ. „Праца“ наступнае спраставаньне.

У нашай газэце „Праца“ № 2 была зьмешчана карэспандэнцыя пад загалоўкам „На чорную дошку“. Мы вельмі абураны на ілжывага карэспандэнта, які для асабістых разрахункаў не пасароміўся ачарніць сябру гуртка Т-ва Беларускае Школы Міхала Зенько. Сябра Зенько быў і ёсьць чэсным, шчырым працаўніком і ня мае нічога супольнага з тымі закідамі, якія на яго накінены Яўхімам Справядлівым. Просім лічыць карэспандэнцыю „На чорную дошку“ ілжывай.

**Управа Задворскага Гуртка Т-ва Беларускае Школы.**

**Рэд.:** Зьмяшчаючы гэтае пісьмо, рэдакцыя шкадуе, што пасярод нашых карэспандэнтаў знаходзяцца грамадзяне, якія нашу газэту ўжываюць, як способ помсты асабістым ворагам.

# Паштовая скрынка.

**Язэпу Самоліну.** Пішэце карэспандэнцыі выразьней. Нічога неяк разабраць, што вы жадаеце сказаць.—**Ачавідцу.** Раім вам узяцца за арганізацыю культурна-прасьветных пляцовак, тады менш будзе тых дзікіх выхадак і п'янства, якое пануе цяпер у вашай ваколіцы. Карэспандэнцыю не зьмяшчаем, бо зьмест ня вельмі цікавы.—**Трахімовічу А.** Карэспандэнцыю вашу перадалі ў Каапэратыўны Банк, дзе выпрацоўваюцца агульныя інструкцыі па каапэрацыі. — **Неўстрашымаму.** Дарма зварачвацца да Правасудзьдзя, калі ў гэтай бядзе яно не паможа.—**Агню.** Карэспандэнцыю не зьмяшчаем, бо нявыразна напісана. — **Шпану Васаўскаму.** Вершы вашы слабы. Друкаваць ня варта. — **М Бурсэвічу.** Вершы ня могуць друкавацца.—**Саша.** Вершы ня друкуем.—**А. Мікулічу.** Вашы вершы зьмесьцім у наступным нумары.



Рэдактар-Выдавец: Р. Аляхновіч.

Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22.